ЛЮБОЎ
ФІЛІМОНАВА

# ІМПРАВІЗАЦЫЯ

ВЕРШЫ. ПАЭМА

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1988



## ВЯСНА

Вось-вось у руцэ ўзарвецца
кветка,
ручка,
блакнот...
Паветра прасякнута прадчуваннем
выбуху
першай клейкай лістоты.
Пырсне дуб вераб'ямі —
цёмнымі кропкамі нот —
На ўсю сінюю бездань неба,
сатканую з прагі палёту.
Гэта — ўсплёск патаемных спружын
і вясновых акордаў.
Першы промень,
запалены сонцам,
як шнур бікфордаў,
Што вось-вось развее світальны туман наўсцяж.

Што такое душа?
Толькі стрэл у бяскрайні прасцяг
Ці нястомны пясочны гадзіннік быцця?..



## ЗОРНЫЯ ДАЖДЖЫ

У дзяцінстве, у юнацтве
Зорныя дажджы нам сняцца.
А цяпер, калі іх бачыш,—
Не віншуй сябе з удачай.
Лепш пад светлы зорны дождж
Не хадзі ў начы,
Прастынеш.
Зор, што ўпалі,— не лічы,
Згаслых зорак не падымеш...

* * *

Хай будзе вечным на векі вечныя
Твая усмешка, мой чалавечак!
След ад дажджынкі на мяккай шчацэ.
Багоўка-кароўка на смуглай руцэ...

Не вечныя ў свеце
                    мае пацалункі
І вечаровы бляск валасоў.
Час — такі бязлітасна хуткі,
І — незваротныя колы гадоў.

Таксама для сына?
Ў мяне ж ён — адзіны!
Няўжо і яму так праз час прайсці?
Дзеля яго
            ўсё магу зрабіць,
Ды толькі час не змагу спыніць.

Нашто ж тыя ночы
                    без сну і спакою?
За кожны крок яго сэрца баліць.
Душа — трывога.
                    Навошта такое?

Каб жыць...



* * *

Свята вымытых вокнаў
І празрыстага шкла!
Столькі неба навокал—
І душа ажыла.

Я стаю над зямлёю
Так высока, што мне
Узляцець бы над ёю,
Як тады, як раней...



* * *

Самалёт-самалёцік,
Падсвечаны знізу аранжавым золатам,
Нетаропка
Над сонцам вячэрнім праплыў.
На змярканне ўжо бралася,
Холадам веяла зоркавым.
Быў у бляклай сімфоніі неба
Загадкаю гэты матыў.

Не чуваць было гуку матораў
У небе далёкім.
Як падхоплены сонцам —
Ішоў самалёт за святлом.
І, здавалася, сам, як святло,—
Да бязважкасці лёгкі.
Ахінала зямлю
Яго залатое крыло.

Стала мне зразумела тады,
Што мая бяссонніца,—
Гэтаксама палёт
За маім незаходзячым сонцам.
Так бывае:
У згадках і вобразах мы ляцім,
Як падхопленыя
Аранжавым і залатым...



* * *

Там, дзе рэчку закапалі,—
Як раней, туман блукае.
Праз шашу, кальцо трамвая
Цягнецца, як дым удалеч
Доўгай белай паласою.
Пахне пылам і расою.
І, здаецца, ў глыбі белай
Зноў рачны хавае бераг.

Сонца ўстане — ён растане,
Ўсё вачам прывычна стане:
Школьны двор, шаша, машыны,
Кволыя кусты ажыны.

Толькі зноўку рана-рана
Белая сцяна тумана
Над былой ракою ўстане
І сябе, і нас падмане...



* * *

Тут, у тлуме звычайнай вуліцы,
Дзе ішоў я самотна і моўчкі —
Мы з табою амаль сутыкнуліся.
І тады я зірнуў табе ў вочы.

Гэта было — як удар нажом,
Нібы маланка сышла агнявая.
— Вось і знайшоў цябе, вось і знайшоў...
— Мы незнаёмыя... Так не бывае.

— Я цябе ўбачыў толькі цяпер,
А нібы вечнасць цэлую знаю.
Гэта вар'яцтва, і ўсё ж мне вер...
— Так не бывае...

— Дом пусты мой, таму што ў ім
Столькі год цябе не хапае.
І вось — свеціць шчасце нам абаім...
— Так не бывае.

— Толькі раз у тысячу год
Дваіх асвятляе хвіліна такая.
(Ды ўжо здалёк, як пакутлівы стогн):
— Так не бывае...



* * *

Гэты горад перапоўнены табою.
Тут ні цішы, ні спагады, ні спакою,
Рэха крокаў тваіх —
пульс яго няроўны.
Гэты горад, як любоў мая —
раптоўны.

Час вячэрні, час ліхтарны — час праводзін.
Цераз вуліцы, праз ноч наўгад праходзім,
Там, над плошчай — столькі сіняй глыбіні,
У якой блукаюць зорныя агні.

Тая вуліца наверх —
як наш уздых.
Той трамвай апошні —
ён для нас дваіх.
Помняць нас рака і дрэвы ў гэтым парку.
«Развітальная» — завецца тая арка.

Ты — не толькі голас, крокі, вусны, рукі,
Я — не толькі твар, дыханне, вочы, рухі.
Мы — успышка светлага, зямнога,
Да шчымлівай радасці знямога.

Мы імя сваёй любові
шчырай і адзінай,
Ды не вечна вымаўляем.
І тады,
Як не бачым больш сваіх любімых —
Застаюцца нам на памяць гарады...



## КАНЦЭРТ ДЛЯ АДНАГО ГОЛАСУ

Іграе баяністка
адна ў пустой кватэры.
Ад скразняку уздрыгваюць
прычыненыя дзверы.
Ў расчыненыя вокны
ўсе зоркі свету свецяць.
Хай слухаюць прахожыя!
Хай слухаюць суседзі!
І рэха множаць сцены
шматгучнасцю арганнай.
Усё у доме з гэтай
музыкі саткана.
Пяе арган, што — вечар,
што зноў яна адна.
А над зямлёю — вечнасць,
а над зямлёй — вясна.
Жанчына гэтай музыкаю
плача і смяецца.
Калі не тая песня —
то што ёй застаецца?
Хай рамяні за плечы
прывычна абдымаюць,
Хай да акна прахожыя
твары падымаюць.

І жанчына доўга
свету спавядаецца,
Што скразняк у сэрца
закрадаецца...



* * *

Гэты прывідны свет...
Нібы з плячэй паліто ападае да ног.
Асыпаецца, як стары і патрэсканы тынк:
шэры туман, стукат стаптаных абцасаў,
чарга ў сталоўцы, рамонт у кватэры,
гадзіна пік, развітальны стук тэлефоннай
трубкі (як выбух бомбы), светлы вобраз
любові ў змроку чужога пад'езда;
імёны і даты і нумары тэлефонаў,
як тонкія нітачкі сувязі — рвуцца,
губляюць свой сэнс.
А з падзей апошняга дня
застаецца ў памяці толькі —
як праз асфальт прабіваецца
краска і ў свет стараецца
выцягнуць за сабой сваё слабое сцябло.
Пад хмарным дахам шэрых нябёсаў
нібы стаміліся барвы прыроды.
Гэты прывідны свет...
Гэтыя накіды,
з якіх яшчэ можа нічога не выйсці.

Бліз аўтобуснага прыпынку
ёсць кавярня, амаль заўсёды пустая.
Я кладу на стол каля плям і крошак
кавалак паперы.
Спрабую стварыць свет сапраўдны.



* * *

Рукі — ў кішэні,
Твар — у каўнер
Плашчыка з шэранькага габардзіну.
Тут, на прыпынку каля магазіна,
Стаяў ён, стаіўшы ў вачах недавер
Да горада,
Што шумеў і бразгаў,
Дзе цемра свяціла вачмі ліхтароў.
А ён — нічога болей не прагнуў,
Як сесці ў трамвай,—
і бывай здароў!
Ды толькі ў кішэнях
Вецер гуляе.

Вечар і воля — айчына яго.
І зябка з двух рукавоў выглядае
Белае пер'е:
Крыло ды крыло.
Анёл.
А што тут такога? Бывае.
З усім можна звыкнуцца пакрысе.
Ды было яму трошачкі сорамна,
Што ён не такі, як усе.



* * *

Паэт шукае паэта
Паўсюды: у тлуме, ў гасцінных гасцінах,
Між безаблічных твараў — адзіны.
Шукае па ўдачы і па няўдачы —
Каго яму лёс пабрацімам прызначыць.
Чакае, што сэрца пэўнага дня
Падкажа другога імя.

І ўсё ж...
Не выпадае ім сустракацца,
Як двум цягнікам, што насустрач імчацца,
Як двум розным назвам адзінаму вершу:
Ніхто не другі
І ніхто не першы.

І ўсё ж паэт шукае да стомы
Роднасць у тварах чужых, незнаёмых.
Хоць свет напалам немагчыма дзяліць,
А як аднаму без другога пражыць?

Іх не шкадуе, не песціць, не гушкае
Іхні аднолькава зорны лёс.
Мабыць, маркотна бывала і Пушкіну,
Бо ён не ведаў, што Лермантаў — ёсць!

Знаем: адным скразняком задзьмула
Свечку ў доме гэтым і тым.
Знаем: адна бяда зазірнула
У вочы ім чорным дулам адным.
Так іх падобна жыццё прымала,
Ды не заўсёды сустрэчы давала.

Вораг мой, сябар мой,
несправядзімыя
Нашы шляхі-дарогі адзіныя.
А патрэбна ад нас аднаго —
Не зганьбаваць рамяства свайго.
Што б мы ні чулі
ў тлумах вакзальных:
Крыкі прыветныя
Ці развітальныя,
Смех, забыццё...
Ды ці толькі гэта?!
Ва ўсе вякі, на ўсе бакі свету
Паэт шукае паэта...



* * *

І — узнікае пад ветрам
Сонца бурштынавы позірк.
І — гусцее паветра,
Вецер над морам галосіць,
Чаек зрывае з неба,
Час навальніц абвяшчае.
Я пад сабою глебы
Ніякай не адчуваю,
Сэрца трывога поўніць.
Любы мой, птах не ўзлятае,
Шторм у раз'юшаны поўдзень
Дзёрзкіх птушак збівае.
Хвалі аб бераг б'юцца.
Асколкі іх чыста-крыштальныя
Перад вачмі застаюцца,
Як клічнікі і пытальнікі...



* * *

На плячах яго ляжаў адчай,
Крок няроўны біў марзянкай — SOS!
І два клічнікі адчайныя ў вачах
Паўз мяне у зрэнках ён пранёс,—
Дзень мой, чалавек мой, тайны знак,
Цень майго сумлення. Мо таму —
Трэба ўспомніць мне, калі і як
Здрадзіць здарылася блізкаму свайму.

Памяць, адкажы тады мне ты:
Што, каму на свеце я павінна?
...Паўз мяне сплываюць, як гады,
Спіны-знакі, цёмныя дэльфіны.

А ці не ўсё роўна, як і дзе?
Не дало ж маё свяціла промняў!
Увесь час перада мной ідзе
Той, чыйго я твару не прыпомню...



* * *

І вось мы сустрэліся зноў
Праз некалькі год бясконцых,
У год несвяточнага сонца,
У час прызабытых слоў.

Стаіць за маёй спіною,
Стаіць за тваёй спіною
З бязлітаснай дабратою
Забытая наша любоў.

Стаіць высока, як поўдзень,
Каб мы па тварах маглі прачытаць
Усё, што хавае гадоў тых цень,
Пра што мы будзем цяпер маўчаць.

(Калі былі разам — былі мы крылатыя,
Зараз маўчым, нібы вінаватыя.)
Ў нас больш няма, субяседнік, ілюзій,
І тайны між намі болей няма.
Цяпер мы з табою — звычайныя людзі,
І кожны пражыў жыццё недарма.

Мы пасталелі, мы памудрэлі,
Ды страцілі крылы — не паляцелі.
Ну што тут скажаш: бывай здароў!
...На падлозе самотна бялее пяро...



## ЧАЛАВЕКААГЕНЬЧЫКІ

*Трыпціх*

*І.К.*

### 1. Агеньчыкі

Чалавек зачапіў за душу.
Яго вобраз у сэрцы я не нашу.
І не кожны будзень ці дзень святочны
Усмешку бачу яго і вочы.
А вось цеплата яго дабраты
Часта грэе, як сонечны дзень залаты.

Так бывае: лёсам, святлом, душой
Чалавек чужы — а становіцца свой.
І плячом, і крылом — да дабра давядзе,
І рублём, і цяплом — дапаможа ў бядзе.

На сустрэчы такія
Забываемся часта,
  Толькі што ж...
Чалавек адыходзіць,
Ды доўга не гасне
  Зорны дождж...
І агеньчык дабра —
Пуцяводны ліхтар уначы,
Ён заўсёды з табой,
Каб хоць памяццю памагчы.

## 2. Чалавек

Прыязджаў ён з канікулаў
са старым чамаданам.
Вавілон маскоўскі студэнцкі бурліў і кіпеў.
Ён — часамі здаваўся нам
старым, занядбаным,
Толькі вось для кожнага
запаветнае слова ён меў.
Уваходзіў, пытаўся:
«А дзе там мае беларусы?»
І на стол, накрыты старым абрусам,
Ставіў свой чамадан з ядой небывалай:
Пах вясковых каўбас, вяндліны і сала,
Вельмі рэдкі
у інтэрнацкіх пакоях,
Па-зямному фантазію непакоіў.

І пакуль мы той чамадан рабавалі —
Ён з усмешкай глядзеў, як мы шчыравалі.
Што з таго, што яго шматдзённы запас
Мы, бывала, знішчалі за раз,—
Чалавек усміхаўся нам
з радасцю ледзь прыкметнай.
(Ці маглі мы ўсвядоміць тады,
чаму ў пакоі так светла?)
Чалавек наш
быў бы зусім самотны ў той час,
Калі б не было ў яго — нас.

Браце цішэйшы, браце старэйшы,
Таварыш з душою сваёй найтанчэйшай,
Вочы — душы блакітныя нетры,
Рукі — цяжкаю працай абветраны.
Ты нас часамі вучыў непрыкметна
Сваёй далікатнасці самай шляхетнай.

## 3.

Хвілю радасці ўнесці —
лíхтарык надзейны ўначы.
Пытанні?
Пытанні —пасля, а спярша — памагчы.
Справа — яна, зразумела, зусім не ў застоллі.
Справа ў тым, чым ты прагу душы натоліш.
Справа і ў тым, ці сваю цеплату выпраменьваць,
А ці ўсю сілу душы
на дабрабыт выменьваць.

Як у звонкім бары,
зялёным і шматгалосым,—
Белай свечкай падвечар
засвеціцца раптам бяроза,—
Так вось лёгка-лёгка,
высока-высока
Чалавекі-агеньчыкі,
дзякуй ім,
свецяць навокал.
Захаваць іх не ўмеем...
Адлятаем, нямеем...



## ІМПРАВІЗАЦЫЯ

Птушка. Вабік. Сіло.
«На голас тонкі ідзі...»
Голас — пятля — рызыкоўны крок.

Толькі голас той чысты —
                                        такі ён адзін.
Вось-вось захліснецца,
                                        вабная, горкая,
Песня пятлёю ў птушкі на горле.

Ды іскра надзеі
Ў птушыным целе.
Спяшалася птушка,
Імкнула, ляцела.
Усё, што дагэтуль у сэрцы гуло,
Песняю звонкаю не ўзышло.
А тут такі родны прываблівы голас,
Вось толькі вакол не відаць нікога...

Гэтак лёгка пазбыцца сумненняў,—
Усё жыццё аддаць за імгненне.

...Так вось птушка —
                                        мелодыяй стала,
Засталося пустое сіло.
Рэха ж песні той — не растала,
Бачыш —
                    яно нібы воблак па небе прайшло.



* * *

Не адракайся ад сябе,
Не апускай вачэй.
Стаміўся сэрца ты драбіць
Між «я» і «мы», «яна», «яно»,
Цяпер — лягчэй?

Ты — мужны мой, харошы мой,
Што пагалоска пра мяне!
Яна, магчыма, не заб'е,
Не адракайся — ад сябе,
Не апускай вачэй...



* * *

Усё цяжэй узнімаюцца крылы.
Восень. Вільгаць. Пара дажджоў.
Пыл і дым ад кастроў астылых
У высокае неба пайшоў.

Прызямляюцца птушкі і людзі:
Недалёт. Пералёт. Недалёт.
Неўзабаве пад сонейкам будзе
Шклом паблісквацъ на лужынах лёд.

Час аседласці, вернасці, прозы,
Успамінаў, спагады, журбы.
У душы ж — адчуванне марозаў,
Прадчуванне змен і сяўбы.



* * *

Ты забыты, мой любы,
Ты забыты.
Разышлася з тваёю
Мая арбіта.

І калі імя тваё
У сяброўскіх размовах
Усплывае прасветлена
І выпадкова —
Мне здаецца:
Ты мяне аклікаеш,
Аклікаеш —
Нібыта
Не адпускаеш.

Быццам мы азірнуліся
Адначасова,
Разам вымавілі
Адно слова.

Сэнс яго
Зразумець ужо немагчыма,
Як не ўбачыць любові
Пустымі вачыма.

...Нам з арбіт сваіх,
Далібог, не сысці.
Адпусці...

---



## ТЫЯ ДВОЕ

І калі яны нават не разам ішлі:
Ён выходзіў у магазін,
а яна на двары заставалася
І глядзела ўслед, і здавалася,
Праз кусты і праз дрэвы бачыць: як Ён там,
Што Ён робіць каля прылаўка: выбірае
хлеб
Ці стаіць у чарзе каля касы,—
То, здавалася, былі яны звязаны
Чымсьці моцным,
Мацней за што не бывае на свеце нічога.
Гэта бачылі ўсе простым вокам
І здзіўляліся: а чаму так бывае?

Яе твар — як была яна на рабоце
Ці з сябрамі на вуліцы размаўляла —
Быў павернуты, як сланечнік да сонца,—
У той бок, дзе Ён гэтым часам
Быў на рабоце,
Ці з сябрам стаяў на вуліцы,
Ці ў аўтобусе ехаў праз горад дадому.
Вусны яе варушыліся (ўсе гэта бачылі)
Ад тых слоў, што мог чуць толькі Ён.
Ад Яе адыходзіў Ён толькі
На даўжыню дыхання,
А далей — было цяжка Яму, ён задыхаўся.

(А гадзіннік пясочны ўсё сыпаў,
па каліве сыпаў,
Высыпаў, нібы ў прорву,
усё, што было ў ім дагэтуль,

Год прайшоў, а ці вечнасць мінула, і вось):
Яшчэ можна бачыць іх поруч,
У іх — падобныя звычкі і твары,
Яны так прывыклі казаць адны словы,
рабіць адны жэсты,
Што цяпер зусім як блізняты:
як брат і сястра.
Побач ідуць яны, на даўжыню рукі і не далей.
Але дзе ўсё тое, між імі?
Нічога няма.
Толькі бездань, пустыня Сахара,
адлегласць у сотні галактык,
Сто мільёнаў жыццяў і смерцяў,
і яны — не знаёмыя болей,
Два асколкі люстэрка,
невыразныя два адбіткі.
Гэта так усім добра відаць,
Што сціскаецца сэрца ад болю.
Чаму?
Ніхто не адкажа, чаму так бывае...



## РАЗМОВА З КЛЁНАМ У АСЕННІМ ПАРКУ

Хто патушыць гэты лістапад?
Супакоіць гэты ліставей?
Хто суніме гэты лістабой?
Нада мной, над табой?
Хто, мой мілы?
Хто прыглушыць пошум лістакрылы,
Хто нам дасць супакой?

Абняліся мы з табой
Ды з асенняю журбой,
Клён мой гожы.
І гаворым неўпапад,
Ды пытаемся наўгад
У прахожых:
Калі сэрца забаліць,
А няма з кім гаварыць,
Што рабіць?

Нам адкажуць: што тут зноў?
Не чыталі пастаноў?
Мо п'яныя?

Ах, прабачце (адкажу),
Мы з тым клёнам (адкажу)
Не такія.

Проста гэтаю парою
Нас такіх на свеце двое,
Што палаючыя душы
Нават дожджык не затушыць....



* * *

Аказалася: гэта любоў,
Што не прасіла нічога.
Ёй дадзена была ад бога
Самая незразумелая з моў,
Што існуюць на зямлі.

І калі мы, як караблі,
Ў цемры без маякоў ішлі,—
Адзін аднаго пазнавалі паўсюды
Па зруху ў душы, па звону ў крыві.

Спачатку здавалася:
выпадкова
Нам дадзена тая маўклівая мова,
Адно аднаму абыякавых слоў
Не даравалі,
Адно аднаго
Не шкадавалі.
...Аказалася: гэта любоў...



## ЗІМОВЫ ВЕРШ

Вецер сняжынкамі тонка звініць,
Свежы сняжок на лыжні рыпіць.
Бегу імклівага — не супыніць.
Лыжы спяваюць: «жыць», «жыць»...

Лес заінелым галлём шамаціць,
Цвінькае, дзінькае, срэбрам мігціць,
Гэта — і ў сне не кожны сасніць.
Кроў у жылах пяе: «жыць»...

І — настае такое імгненне:
Ператвараешся — у імкненне.
Бег — як пагоня, кроў— як агонь,
Не заўважаеш амаль таго.
Сэрца, здаецца, зусім не б'ецца,
Дыхаецца табе — як пяецца.
Птушкай душа над табою ляціць,
Кроў звініць: «жыць», «жыць»...

Праз лясныя імчу міражы,
З горкі стромкай,
                на віражы —
Будучае прадказаць не бяруся...
...Плясь! Хрумсь!

Ах, АТК, цёця Маня,
                каб табе доўга жыць!
Я — ляжу,
        і зламаная лыжына побач ляжыць...

Белы след самалётаў
нябеспай лыжпёй
У яркім блакіце неба
праносіцца нада мной.
Як спакойна на свеце
ад сонечнага агню.
Вецер — знік,
яго ўжо — не даганю.
Спалохана да мяне
бамбіза-спартовец імчыць,
Бачыць усмешку маю,
кажа з палёгкаю:
«Будзеце жыць...»

А нада мною
Неба зарыць...



* * *

Ты ў маёй крыві,
Быццам сон цяжкі,
Бы глыток віна
Найхмялейшага.
Аднаго прашу —
Назаўжды пакінь:
Я абрала другога,
Смялейшага.
Хто не стаў мне — свой,
З дабратой сваёй.
І не ведаю,
Чым аддзякаваць.
Толькі ж я сама
Нарабіла ўсё,—
Не хачу дапамогі
Ніякае.

Адракуся я
Ад свайго імя,
Прарасту ў зямлі
Дзічкай-яблыняй.
Будзеш ты хадзіць
І зрываць штодня
Мае горка-салодкія
Яблыкі.

# ВАНДРОЎНЫЯ ДРЭВЫ

*Паэма*

## Уступ

Былі напачатку звяры ды дрэвы
Па ўсёй зямлі.
Пасля — празарэннем душы прыроды —
І людзі прыйшлі.
Быў нетаропкі і асцярожны
Іхні прыход.
Прырода іх клапатліва пусціла
У свой карагод.
Дзеці як дзеці. І іх дзяцінства —
Было — са зверам і дрэвам адзінства.
Быў шчаслівы дар разумення
Жывым — жывога,
карэннем — карэння.
Душа наша часам і сёння ўспомніць
Палёт у яшчаравым апярэнні.
Душу і цяпер тваю часам напоўніць
З жывым і існым вакол — разуменне.
Гэта здараецца.
Круг замыкаецца.
Толькі не ўсё нам прыпамінаецца.
Рэдкія ў свеце здагадкі зорныя,
Экстрасэнсорныя,
Ілюзорныя.

* * *

Быў дом апусцелы на знос.
І над ім —
Яблынь белых клубіўся дым.
Туліўся галодны сабака да дома.
Хоць дом і пусты, а ўсё ж — знаёмы.
Сабака патрэбен быў там да пары,
Пакуль не з'ехалі гаспадары.

За дрэвы — гаспадарам заплацілі,
Пасля — пра гэтыя дрэвы забылі
(І тыя, хто іх саджаў, гадаваў,
І тыя, хто гэтыя дрэвы купляў).

А горад з праспектаў шырокіх і
гулкіх —
Ішоў па забытых богам завулках.

*Ноч... Цішыня...*
*— Гэта я, твая яблыня,*
*Ціха галінкамі ў вокны шкрабаю.*
*Ў колькі вокнаў чужых зазірала —*
*Усе карані ў кроў пасцірала.*
*Вось і знайшла цябе.*
*Ўспомні праз сон хоць...*
*Мае карані без глебы сохнуць.*
*Надта высока, надта далёка*
*Маім галінкам — да тваіх вокан.*
*Любы, прачніся, дай увайсці,*
*Побач з табою хачу прарасці...*

...Ўсяго за гадзіну домік на знос
Экскаватар бязлітасна знёс.
Характар мужчынскі быў у сабакі,
Ён не ўмеў, як яблыні, плакаць.
Дварняжны, няважны, а ўсё ж —
адважны.

Пайшоў — куды вёў яго чуйны нос.
Надзею на лепшае ў сэрцы ён нёс.
Сабакі і дзеці адно аднаго
Без лішніх слоў заўжды разумеюць.
— Мама, сабака ўсміхацца ўмее,
Давай мы возьмем дадому яго?
Ён вялікі, ён есці хоча...
— Пакармі, калі хочаш, сыночак.
Але ж ён брудны, бадзяга, нічыйны,
Узяць у дом яго немагчыма...

*Ці ўдасца расказаць*
*мне чалавечай мовай,*
*Як бачу вас, людзей —*
*нічыйны пёс двяровы.*
*Я — Чацкі, Гамлет я.*
*Без шпагі і без звання.*
*Ўчарашні дзень мой — дом,*
*разбураны дазвання.*
*А кожны новы дзень —*
*ланцуг маіх адкрыццяў.*
*Вас — голас выдае,*
*што вы ні гаварыце.*
*Вы — ружа, не, півонь*
*у шарыку празрыстым.*
*Вы — воблака з даждэом*
*у небе светла-чыстым.*
*А вы — амаль не чалавек,*
*і кроў у вас аранжавая,*
*Ўсё сваё жыццё*
*сваім сябрам вы здраджвалі.*
*(Той, пра каго яшчэ маўчаў,—*
*ён зразумеў,*
*што я*
*Наскрозь яго убачыў.*
*Спалохаўся: «Вар'ят!»)*

*...Так сустракаешся ў жыцці*
*не толькі з дабратою,*
*Пануе ў свеце іншы раз*
*паразуменне злое.*
*«Вар'ят ці нічыйны»...*
*«У дом — немагчыма»...*
*А словам можна ж спагадаць,*
*І забіваць, і ратаваць.*
*Падчас мацней за зброю*
*З'явішча такое...*

А яблыні — побач з будоўляй стаялі,
Крыкам — грукат яе заглушалі,
Невінаватыя, белыя-белыя,
І — ўжо нічыйныя, адзічэлыя.
Чуў, бадай што, адзін начальнік
(А можа, здалося?), што дрэвы—крычалі.
Падумаў: не могуць дрэвы крычаць.
Падумаў: з гэтым трэба канчаць.
І — каб траншэі проста пралеглі,
Яблыні дружна палеглі.
Пасля —
Карэнне іх чорнае ў неба тырчала
Бездапаможна і недарэчна,
Бы ўсплёск апошні рук чалавечых.
Кудысьці звёз грузавік іх звычайны.
І засталіся на фоне неба
Чорныя ўскрыкі: «Глебы!» «Глебы!»

*Можна трохі вады?*
*(Аб шклянку зубы пазвоньваюць.)*
*Я так, на хвілінку, любы, калі дазволіш...*
*Ну што за планіда ў мяне —*
*з'яўляцца заўжды недарэчы!..*
*Вакол цябе новыя людзі і новыя рэчы.*
*І я — як забытая рэч, што ўжо — не твая.*
*Дзіўнае слова: «Нічыя...»*

## Спроба бязбожнай малітвы

Ўмяшайся, філосаф, чытач, умяшайся!..
Свет добры — на добрае памнажайся!
Мігці, мая зорка, адчайна свяці,
Дай кожнаму шчасце і глебу знайсці!
І сіне, і зе́лена, і пунсова
Успыхні, ўратуй, запаветнае слова!..
Было ж калісьці, яно гучала,
Мы чулі: прырода тады не маўчала
Цёплаю хваляй, бязгучнаю нотай...
Жывое не ведала адзіноты...



## І стала вядома, што

яблыні — не пасеклі на дровы,
Яны і дагэтуль
Жывыя-здаровыя.
Збеглі —
І вось між намі блукаюць.
Ніхто ў іх дрэў цяпер не пазнае.
У трамваях, тралейбусах, магазінах
Вочы зялёныя, чорныя, сінія...
З намі гавораць, з намі сябруюць,
Па-чалавечы на ўсё рэагуюць.
Як іх адрозніць, чым іх пазначыць?
І што ўсё гэта, нарэшце, значыць?

Як лось паранены з лесу выходзіць
І ў людзей паратунак знаходзіць,
Як птаха-падранка інстынктам вядзе
Шчымлівы давер да добрых людзей.

Так і нічыйныя дрэвы пайшлі
У гай чалавечы і сталі людзьмі.
Гэта прырода нас зноў прыручае,
Гэта яна нас так выручае
Прытокам чыстай крыві свае,
Новы шанц нам выжыць дае.

(А хто з нас дрэвы, а хто з нас — людзі,—
Прырода, яна спавядацца не будзе)...

Адзіны сабака,—
філосаф-блукальнік,—
Ён ведае ўсё:
Who is who [1],
Хто ёсць чый.
Калматы хвост — як вечны пытальнік.
Ды толькі сабака лепш прамаўчыць.
Сваім інстынктам ці носам чуйным
Адразу пазнае, хто — дрэва нічыйнае.
Толькі і выгляду не пакажа,
Знае: дрэвы таксама не здраджваюць.
Сабаку цяпер прыручыць немагчыма,
Стары, многа бачыў, таксама нічыйны.
Дарэмна яго на птушыным рынку
Тры дні запар прадаваў барыга.
Быў попыт на галубоў і нутрый,
На кошак, мышак і іншыя футры.
Каму быў патрэбен філосаф стары,
Якога кінулі гаспадары?
Сабака спакойна вакол пазіраў.
Ніхто і рубля за яго не даваў.
Але ж...
Няма «нічыіх» у прыродзе жывой
І ў тым, што зроблена намі з табой.

---

[1] Хто ёсць хто *(англ.)*.

Гай чалавечы гамоніць, шуміць.
Такі ён нявечны, аж сэрца шчыміць.
Сыночкі-таполі,
Бярозы-дачушкі...
Над гаем людскім —
Самалётаптушкі.
У нетрах марскіх
Карабледэльфіны,
Вачмі перыскопаў
Глядзяць нам у спіны.
Даверлівы гай
і неасцярожны,
Таму і шчыры,
і насцярожлівы.

Такая прырода, такая парода
Чалавечага, невыпадковага роду.

...У жалезнага робата родны сын,
Аказалася... хворы на шкарлятыну.

У маці, выдатніцы працы на ткацкай
фабрыцы,
І ў бацькі, вадзіцеля аўтакалоны,
Нарадзіўся...
дзіцёнак-чарэшанька.
Бацька тры дні хадзіў як шалёны.
Плакала маці: чым жа я грэшная,
Што ў мяне — дзіцёнак-чарэшня.
Урач (вучоны, відаць, аспірант)
Вывад адразу зрабіў: «Мутант...»
А што з той назвы...
Бацькі пасля
Прывыклі — ўсё ж кроўнае гэта дзіця.

А быць чалавека-дрэвам не страшна.
Дрэвы — яны не ўмеюць здраджваць.

І шлях іхні просты: ад глебы — да неба,
Ды толькі чыімісьці быць ім трэба.
У тых, хто блукае па землях чужынных,
Прагне карэнне: «Айчыны!», «Айчыны!»

Джунглі, бары, пералескі, гаі,
Шум карнавалаў, зацішша, баі...
Слухаем, можа, падкажа прырода:
Хто мы, дзе мы, чыёй мы пароды.
Пачакаем, апамятаемся
і на час —
Адыходзячы ў вечнасць, успомнім якраз.
Ды не зможам пра гэта сказаць мы
нашчадкам,
Упадзе ўжо на вусны маўчання пячатка...

## З парадоксаў нашага часу

*Так у каменных джунглях*
*Нарэшце ўпершыню сустрэліся двое:*
*Ён, Рамэо, і яна, Джульета.*
*Ён жыў у першым пад'ездзе таго ж дома,*
*Дзе яна жыла — у другім.*
*І было ім тады... за шэсцьдзесят.*
*У кожнага — унукі.*
*Магчыма, штосьці падобнае*
*Здарылася і ў свой час.*
*А тут — плёткі, а тут — пісакі.*
*Вось вам і сімвалы, вось вам і драма...*
*Рамантыкі часоў мінулых*
*Навыдумлялі немаведама чаго*
*(Не кожнаму ж можна верыць).*

* * *

А ўсё ж — жывы ад жывога залежыць,
А ўсё ж жывы — жывому належыць.
Няважна, ў якім яны спалучэнні —
Існага з існым — дыханне, карэнне.

## Рытарычнае пытанне:
## «А з намі што?»

Як сказаў класік: «Ніводная краіна
не мае міністэрства нападу, кожная —
толькі міністэрства абароны».

Ядловец, арэшнік, ажына, і вы,
Струменьчыкі пыльна-зялёнай травы,
Палын, светаяннік,— адкуль выцякаеце,
Дзя́ды, гваздзікі,— куды ўпадаеце?
Робіце круг свой асэнсаваны.
А мы вось — ваюем, залечваем раны.

Нелагічнасць людская —усё ж рызыкоўная.
Толькі дрэвы — растуць высока і роўна,
Толькі дрэвы — знаходзяць агульную мову.
Можа, будучыня ім належыць?
Ды прадбачыць яе немагчыма.
Ад каго ўсё ж нарэшце залежыць,
Каб не стала ў ёй слова «нічыйны»?

Звышчалавекі, надчалавекі,
Вы не любілі бліжніх ніколі,
Толькі імя сваё, і не болей.
Выкляты след ваш усімі навекі.
Толькі ім, карабельным соснам,
Узнімацца высока над намі
І шаптаць з вышыні стогалосна:
«Мір з вамі».

## Маналог староннага

*Не, не здарыцца нічога*
*незвычайнага такога*
*Ні з табою, ні са мною.*
*Свет вакол — як сіпета́.*
*Ты глядзіш —*
*яны страляюць,*
*Ты сядзіш —*
*яны ўзлятаюць.*
*Фільм той скончыўся, забыўся,*
*болей клопату няма.*
*Я ад вас не маю тайны:*
*лёс — звычайны,*
*пульс — нармальны.*
*Я на цуд не спадзяюся,*
*як і ўсе — жыву, служу,*
*Ўсё, што будзе не са мною —*
*як за тоўстаю сцяною,*
*Нібы ў пятым вымярэнні:*
*не параніць мне душу.*
*Мне не выпадзе ніколі*
*выйграць бой на ратным полі,*
*Стаць паэтам. Нават яблык*
*не ўпадзе на галаву.*
*Я такі — якіх мільёны.*
*Ем сумленны хлеб надзённы,*
*Зорак з неба не хапаю.*
*Як і ўсе вакол жыву.*

## Маналог староннага (працяг)

*Доктар, выратуйце, доктар,*
*штосьці сталася са мною.*
*Нечакана, беспадстаўна.*
*І, галоўнае, за што?*

*Чую раптам — што такое? —*
*шолах, шэпат за спіною.*
*Я падумаў, гэта крылы.*
*Аказалася: галлё.*
*Медыцына прагледзела:*
*дрэва прарасло праз цела.*
*Дзве галінкі, дзве антэнкі*
*за маёй дрыжаць спіной.*
*На вятрах зямлі шалёных*
*мне цяпер гайдацца клёнам.*
*Болі, радасці зямлі*
*праз мяне, як ток, пайшлі...*



* * *

Забуду ўсё, што напісалі да мяне,
І ў лес пайду,
да вогнішча прысяду,
І ад агню пачну,
і ад начы пачну,
Не адвяду вачэй
ад нечых я паглядаў,
Што будуць зырка з цемры мне свяціць
Зялёнымі начнымі светлякамі.
З трывогай буду слухаць, як хрумсціць
Непадалёк сухое вецце пад нагамі,—
І — выйдзе Субяседнік да мяне,
І распачнём размову мы вачыма:
Чаму? Каго і дзе?
Хто ты? Нашто? Чаго?
Імя — няма яшчэ,
а ёсць гаркавасць дыму,
А ёсць яшчэ яно,
няспелае, не слова —
Жаданне гаварыць
І прадчуванне мовы.
І хай не ўкладваецца
ў галаве,
Што ёсць душа жывая, ёсць двайнік...
Ён — рэха,
ён — жывы у горле крык,
Нямы і звонкі.
Слова скажаш — ажыве.
І я вось-вось скажу яго, здаецца...
...Ён спадзяецца...



## ПРАЦЯГ ФОРМЫ

Спачатку было не слова,
Было яго прадчуванне,
Задума,
Эскіз ці накід.
Прырода нас вымаўляла,
Калі мы ўжо наспявалі,
І кожнаму быў адведзены
Час, а магчыма, і месца.

Па прастаце чалавечай
Мы думалі часам, што зможам
Быць толькі формай, не зместам,
Фарбай, якую наборшчык
Змые з рук пасля працы,
Калі надрукуецца кніга
Вялікіх Спраў на Зямлі.

Але — як рэха, як памяць,
Якая не ведае часу,—
У табе галасы ўзнікалі
Тых, хто адбыўся калісьці
Няціха і нездарма,
Тады станавілася ясна,
Што ты — паўтараешся зноўку,
Нібы працяг гаворкі,
Дзе важкае кожнае слова
У новых сваіх спалучэннях.

Бо няспынна шукае прырода
То адну, то другую форму
Для сваіх немажлівых задумаў.

Так праз чорны дым інквізітарскіх вогнішчаў
Вочы жанчыны (не Жаны, другой),
Азёры блакіту,— крычалі:
— Вы свабодныя людзі,
вы шчырыя зоркі, не знічкі.
Я манаскую хустку здымаю
і да неба рукой дастаю.
Я не ўмею меч трымаць у руцэ,
толькі кветкі — умею.
Але ж, людзі, за вас, дзеля вас
на касцёр узыду,
І за гэта ў вас я імя бессмяротнае мецьму...
(І — спалоханы шэпт натоўпу:
«Спаліць яе, ведзьму!»)
Слова сказана ўголас.
Душы сваёй камертонам —
Я ўспрыму яго сэнс,
Бо гэтае слова — маё.
І калі я стану нават
травінкай,
былінкай,
То нахілюся
да пакрыўджанага
і да слабога
І буду расці на яго зямлі,
І буду яго называцца імем.
А другога жыцця не хачу я.
(А калі твайго рэха ніхто не пачуе?)
Нават калі ніхто не пачуе...



## УСПАМІН ПРА «ДАБРАЛЮБАВА 9/II» [1]

Пакуль што ніхто нас нідзе не чакае,
Празрыстыя вокны. Ля ног — сусвет.
І наш аркестр граць пачынае,
За музыкай — дзень узыходзіць услед.

І хоць нічога час не вяртае —
Мы ўспамінаем
Празрысты аркестр.
Святлейшы крышталік у нас асвятляе
Паэм пачатак,
Трагедый змест.

Чым далей — тым болей
розныя долі
У кожнага з аркестрантаў маіх.
Трымцяць у натоўпах —
адны ў полі воі,
Бадзягі, крышталікі, салаўі.

Зазналі самоту ў зацятым маўчанні,
Нішчымны пах славы і стомы сон.
Губляліся б, можа, між іншых гучанняў,
Калі б не аркестр, што граў наўздагон.

Ён выручаў нас, ён выратоўваў,
Ён загартоўваў, ён наканоўваў.

---

[1] Інтэрнат Літаратурнага інстытута імя М. Горкага.

Светлы, няўмольны,— сумленне юнацтва,
І пазыўныя кроўнага брацтва.

...Цёмны пакой. Цыгарэта. Бяссоньне.
Хто гэта ў дзверы так позна звоніць?
Сябар.
Не трэба нам лішніх слоў.
Схілім галовы сівыя.
І зноў —
Здасца: ніхто нідзе не чакае.
Празрыстыя вокны.
Ля ног сусвет.
Празрысты аркестр граць пачынае,
І музыка нам узыходзіць услед.



## ЮНАЦТВА НЕАСЦЯРОЖНАЕ

Выпадковых сяброў мы прыводзілі ў дом,
Выпадковых каханых любілі.
І здаралася так, што за нашым сталом
Мы і бога, і чорта мірылі.

Безаглядна дарылі і сілу і час
Тым сябрам выпадковым, раптоўным.
А, бывала, яны ратавалі і нас
Гэтаксама шчодра, гвалтоўна.

Мы не розумам — сэрцам маглі адчуваць:
З кім — сябраваць ці варагаваць.
І надзейнейшых за тых першых сяброў
Не здаралася нам сустракаць больш ніколі,
Не здаралася болей сардэчных размоў
І такой безаглядпае волі.
І любоў — як маланкі святло, як лёс,
Кожны светлаю тайнай у сэрцы нёс.

Мы жыццё пачыналі спачатку не раз,
Быццам гэтых жыццяў было ў нас многа,
Ды аказвалася, што няма на запас,
Што адны ў нас — жыццё і дарога.

Ах, юнацтва наша неасцярожнае...
Усё мільгаюць гады, як слупы дарожныя,
І прыходзіць спакой
і насцярожанасць,

За свой век нетрывалы надта —
ўстрывожанасць.
Ды люстэрка жыцця нашы згладжвае рысы,
Як мяняе вецер аблокаў абрысы.
І сябе толькі часам да болю шкада:
Ёсць чатыры сцяны, і жыццё — не бяда.
Прывучыла нас мудрасць мінулых гадоў
Не губляць больш сваіх бядовых галоў.
І даўно развучыліся рызыкаваць.
Ды раптоўна душа пачне паўставаць,—
Хтосьці ў дзверы пастукае — сэрца заб'ецца:
То Пан Выпадак, і не іначай, здаецца.
І — далоў ланцужкі, і замкі, і заслоны!..

...— За святло, калі ласка, вашы талоны...



* * *

Светлай памяці вашай, жанчыны —
Баба Дуня і баба Ліна,
Дзве вайны ў вас было за плячыма,
Не прыйшлі дадому мужчыны.
Свету — вы раўнавагу вярталі,
Шкадавалі і спагадалі.
Калыханкі дзецям сваім і зямлі
Па радку вечарамі складалі.

Баба Дуня рана ўставала,
Раніцою палі засявала,
А пад вечар з печы духмяны хлеб
На капусных лістах вымала.
І чароўным здаваўся малечы
Шлях зярнятак, нязменны,
спрадвечны:
Уранку — ў зямлю,
А пад вечар — з печы.

Баба Ліна рана ўставала,
Дзверы школы сваёй адчыняла.
Бабе — сеяць разумнае, вечнае
Выпадала з ранку да вечара.
І вандровак бывала нямала,
Гарады і весі, вакзалы...
Разначынскі багажык,
Ды колькі ён важыць!..

Там, у далечы,
з якой не вяртаюцца —
Дзве белых плямкі ў імгле пракідаюцца.

Дзве белых зорачкі ў вечным тумане,
Прыгледзішся — і выразнымі стануць:
Каўнерык карункавы, гімназічны
І позірк — дзёрзкасці непрывычнай.
Крыло на плячы белай хусткі дзявочай,
І дабрынёй набрынялыя вочы.
Прыгожыя і маладыя такія —
Капіталіна і Еўдакія.

Беражэ зямлю ад жыццёвых бур
І сузор'е маіх бабуль...



* * *

У час, калі
                над імем маім
Зноў прывычна ламалі шпагу,
І не хапала ў мяне адвагі
Верыць,
          што на
                    дабраце мы стаім,—
Я адчувала: ідзе недзе дождж
І нібы хтосьці мяне аклікае.
Свет нядобры.
                    І ўсё ж... і ўсё ж...
Надзея дарэшты з душы не знікае.

Недзе пад сонцам ёсць у мяне
Дом, сябры і каліва шчасця.
І «сёння» міне, і «заўтра» міне,
Святло ж у душы маёй — не пагасне.

Калі ж і дома не стане ў мяне —
Сябры прытуляць, сябры памогуць.
«Не хлебам адзіным...» жывём мы, але —
Кавалак нялішні дадуць на дарогу.

Калі ж нечакана здрадзяць сябры —
У шчасце паверу, яно не падмане.
Знаю, нябачнае да пары —
Яно за спіною маёю ўстане.

Калі ж шчасце здрадзіць табе,
Як воблак растане яно ў цемнаце,—

Адчую, як там, у душы на дне —
Мудрасць продкаў маіх прарасце.

Добра, што ёсць пад намі зямля,
Ёсць на ёй продкі і ёсць нашчадкі.
Узыдзем на новы круг спакваля.
Дзе ёсць канец — там ёсць і пачатак.

Мы — усе
будзем дажджом,
Рэчкай, травою, птушкай і небам.
А пакуль на зямлі мы жывём —
Пакланяцца любові трэба.



* * *

Адпусці мяне, вясна,
у маё лета,—
Надта радаснае сонца тваё.
Для мяне непрывычна ўжо гэта,
Не лічу больш на зары салаўёў.
Надта неба залатое віруе.
Не адсюль свае ўжо фарбы бяру я.

Ды вясна
пераблытала фарбы,
Памяшала ўсе нам
карты і планы.
І скарыла
нават самых упартых,
Напаіла іх
свабодаю п'янай.
Той настой,
што на леташнім лісці,
І на водары
зямлі і травы —
Са спрадвечнаю сілаю чыстай —
Небяспечны
для любой галавы.
Тут ты траціш
і ўзрост,
і высновы.
Што з табой?
Як знайсці тыя словы...
Я паэт, а тут не знаю, што сказаць,
Каб той выбух душы апісаць...



* * *

Тут, у гулкай бяздоннай зале,
Пыл у сонечных промнях танцуе.
Лета.
...Што яму пра мяне сказалі?
І супала гэта з канцом свету.
Адвярнуўся, міма прайшоў, апусціўшы
голаў.
...Шоргат. Шэпт. Музыканты гартаюць ноты.
Свет паплыў вакол сонечным колам.
Дрэнна помню, што сталася потым.

...А пад вечар гасцей стала болей,
І мяне станцаваць папрасілі.
Я танцорка. Шчаслівая доля.
Танцавала, пакуль было сілы.

Я сябе і вас танцавала,
І таго, хто пакінуў залу.
І патроху туга адступала,
І душа мая аджывала,
Так, бо мне — засталася музыка,
Што не раз ужо ратавала...



## ПЫТАННЕ

Усё жыццё той сустрэчы чакаць,
Як падарунка ад бога.
Сустрэцца. Адказ у вачах прачытаць
І — не сказаць анічога?!

Гэтак бывае. Гэтак бывае...
Раптам аловак з рукі выпадае
Ў міг, калі дачакаешся Слова...
Доўга чакаў.
Не паўторыш ізноў.
Такая цэнтраімклівая сіла
У тое імгненне цябе падкасіла!

Можа, адвыкла душа ўзлятаць,
Доўгачаканне прывычней трываць,
І ты, нібы птушка, на віражы
Ветру ў крылы набраў замнога?

Усё жыццё вось так і пражыць
І — не сказаць нічога?!.

## М. БАГДАНОВІЧУ

Бранзавеюць адбіткі твае, прахожы—
Ні адзін на цябе не падобны.
А патомкі бяссонна, нястомна іх множаць,
А ты міма ідзеш,
Нястомны.

І чужы табе клопат іх,
слава — таксама чужая.
Ты — прахожы на вечнай дарозе,
На яе і зважаеш.
Ты яшчэ не прыйшоў
да любові, да шчасця, да славы.
Смак дарожнага пылу табе
прывычна-гаркавы.

Так ідзеш па дарозе сваёй
Ні героем і ні пакутнікам.
Замест кветак, прахожы, пад ногі табе
Адно — трыпутнікі.
Ды азваўся нарэшце час
запаветным імем:
Тваё слова, Максіме...



* * *

І калі настае
залаты восеньскі час —
Ператвараецца чалавек
у самога сябе.
Пакідае яго
неспакой, мітусня і адчай.
Ён сябе аддае сяўбе.
На зіму ён сее спакой у сваёй душы.
Лёгкі смутак у сэрцы,
утульнасць у доме сваім
(Ці то мышы, ці то дамавік —
у куточку шум),—
Распасцёртыя крылы зімы
хай трапечуць над ім.
На вясну ён сее ў сэрцы
трывогу і радасць,
Кожны раз вясной
будзе ён нараджацца ізноў.
А на лета —
цёплы дождж, які будзе
падаць і падаць,
І яшчэ — сілу рук
дужых сваіх сыноў.
Час пасеяць, а час — сабраць ураджаі...
Як, калі?
Не здагадваемся, ані.
Толькі восень
таямніцу ледзь адкрывае,
Як па каліве сее
свае залатыя дні.



* * *

Я штодня
Расту галлём у неба,
Каранямі
Пранікаю ў глебу.
Я расту ў траву, зямлю, паперу,
Прарастаю
У «люблю» і «веру».
Што аб часе марна разважаць?
Нават вечнай нематой спавітая,
Пэўным разам вечнасці адкрытая,
З путаў вырвецца мая душа:
«Salve vitae!» [1]

---

[1] Прывітанне жыццю! *(лац.)*



* * *

Што выпадае нам —
Таго не перайначыш.
А што ты можаш сам,
Не на крыле удачы?
Не ў самы зорны час,
Не ў светлае імгненне,
А як бяжыць ад нас
Удача і натхненне?

...Я ў цемрыва акна
Гляджу амаль няўцямна,
Нібыта ў вір без дна,
Які вось-вось зацягне.

Не выступяць на ім
Ні зоркі, ні сігналы.
Ў галактыках маіх
Святла не стала.

Ды раптам стала днець.
Ад самага пачатку —
Стаіць дзяўчо ў акне
І хукае ў пальчаткі.

Вакол зіма і снег,
Вачам і сэрцу светла.
Ўглядаецца ў мяне
Дзяўчо паглядам ветлым.

Я — з будучыні яе,
Адбітак яе з начы.

Ці пазнаеш мяне?
Яно глядзіць мне ў вочы.

Ты не адводзь вачэй.
Стамілася я трохі,
Ды — не з гары яшчэ,
Я — з іншае эпохі.

З надзеяю глядзі
І хукай у пальчаткі.
Пачаць мне хопіць сілы
Зноў усё спачатку...



## СУВОРАЎЦЫ

Мужчыны, абаронцы, афіцэры...
(Спрадвечны доўг мужчын — абараняць!)
Рамень бліскучы, белыя каўнеры,
Па бруку крокі дробна грукацяць.

Мундзір мужчыну быў заўжды да твару.
І — праз вякі імчалі сінія гусары,
І ад старой музейнай гімнасцёркі
Не выветрыўся дымны пах касцёрны.

Ідуць па вуліцы яны, яшчэ падлеткі.
Звальніцельная. Дзень спякотны, летні.
І хтосьці з іх на шумнай вуліцы убачыў
Латок з марожаным.
                    Якая ўдача!

І лапкі тонкія дзіцячыя сціскаюць
За палачку марожанае,
                    бы кветку,
Паперчыны пялёсткамі звісаюць,
І светла свет глядзіць на іх і ветла.

Спыніся, час!
                    Падобныя ўсе дзеці
На гэтай цёплай і жывой планеце.
Ды толькі калі выбухне праклятая,—
Вы — да яе бліжэй, гусарыкі кірпатыя...



## АЛХІМІЯ ЖЫЦЦЯ

Здабываем каштоўны метал
Год ад году лягчэй і лягчэй:
Серабрынкі сваіх валасоў,
Залацінкі сваіх вачэй.

(Чым званчэй твой радок і чысцей —
То чамусьці жыццё карацей...)

---



* * *

Што застаецца пасля,
пасля...
Калі мы ідзём у «ніпто» і ў «нікуды»?
Можа, імя?
Не, не імя.
Ці лёгка людзі цябе забудуць?

І што твайго застаецца ў жыцці.
Ці з лёгкім сэрцам зможаш пайсці?..
Калі ты галоўнае слова сказаў,
Калі ты сына
узгадаваў,
Калі ты дом
пабудаваў,
То, значыць, жыў,
а не існаваў.

І кола жыцця далей закруціў,
Шанц свой галоўны
не ўпусціў.

Так людзі кажуць.
А што сапраўды?
...Звон застаецца крынічнай вады,

Посвіст ветру ды пошум лесу,
Крыжыкі бледна-ліловага бэзу.



* * *

І ў святочныя дні, і ў палоне трывог,
Колькі мы ўспамінаем радзінны парог!
Бо адсюль мы рабілі свой першы крок
У няблізкія лабірынты дарог.

Я ж — адтуль, з камуналкі...
Вядомая справа —
Суседзі злева, суседзі справа.
Смяяўся, спрачаўся там розны народ
Дзень і ноч напралёт, навылёт.

Так быў дом наш ад першай кватэры да сотай
Напоўнены, быццам пчаліныя соты.
Розных людзей так яднае вакзал,
Як нас гэты дом выпадкова звязаў.

За сцяною направа — дзіцячы бедлам,
Дзе ўсе цацкі і лялькі — ушчэнт, напалам,
Не сціхаюць там свары ніколі
Ў цёткі Зіны і дзядзькі Колі.

За сцяною налева — ўсё шэпт па начах,
Процьмы кніг, фаліянтаў старых.
Дзвюх вучоных жанчын паўастылы ачаг
Ды самота — адна на дваіх.

Ну, а ў нашым пакоі — ні сну, ні спакою
Ні нам, ні суседзям. Сапраўдны садом,
Бо вучуся я — у музычнай школе,
Яшчэ і настаўніца ходзіць на дом.

Пяць гадоў мне. Я мучу фартэпіяна
Пад бразгат трамваяў пад нашым акном.
Паўтараю праз слёзы сабе апантана,
Што стану танкістам усё адно.

Гэты Ноеў каўчэг, поўны розных людзей,
Плыў па моры жыццёвых бурлівых падзей.
І, магчыма б, знайшлі ў тых кухонных
праблемах
Шэкспіры, Вампілавы —
свае тэмы.

Было тайны ад бліжніх хаваць недарэчна —
Усё выкрывала кухоннае веча:
Што дзядзька Коля ізноў калабродзіць,
Да Ніны Пятроўны ваенны «ходзіць»...

Цяпер мне няўцям, як тады маглі жыць
Мы без тайны жыцця, без тайны душы?
Колькі замкаў паветраных навыдумлялі,
У якіх свае тайны і мары хавалі!

Што я ўспомню цяпер, камуналак дзіця:
Архітэктар няўмелых паветраных замкаў?
Той гарт, што дала на пачатку жыцця
Незабыўная камуналка...



## ВОСЕНЬ ЛЕТА

Лясная маліна,
Лясная маліна...
Дух позняга лета
У прысмаку вінным.
Прывялыя травы —
У кроплях ажыны...
    Ужо адыгралі
    Вясёлыя фарбы,
    Ужо адцвілі
    Васількі і нябёсы,
    Ды толькі ніяк
    Не наважыцца восень...
Дару табе прыгаршчы
Цёплых рубінаў —
Агеньчыкі позняй
Лясное маліны.

Спытаешся здзіўлена:
Што гэта?
Гэта?
Восень лета, мой сябар,
Восень лета.



* * *

Ён не гук, не светлацень —
Несусветны летуцень.
Ён паўсюды, ён нідзе
У невыказна ясны дзень,
Весна-летні, лётна-вёсны,
У дзень вясёлы і дзівосны.
Летуцень — не сон, не дзея,—
Несусветная падзея.
Гэта ў нас затрапяталі
Крыларадасныя хвалі,
То — вышэйшымі мы сталі,
То — адкрыта акрыялі.

Я — вачыма прасвятлею,
Ўсё на свеце разумею —
Летуцею, вар'яцею...
(Дзякуй богу, яшчэ ўмею!)



* * *

Як ходзяць у адзіноту?
А так, без цырымоній...

Сцягну чырвонай стужкаю
Валасоў пажар.
Вазьму з сабою сына
Ды ката Цімоню.
Магу быць толькі ў радасць
Любым, не ў цяжар.

Мой сын — ён падрасце
Ля мамінай спадніцы.
Ён будзе ціхі хлопчык,
Падобны на мяне.

Не раскажу нікому,
Што ўсё-ткі будзе сніцца
Мне любы, дом і дзеці
Амаль у кожным сне.

Мы ж цывілізаваныя,
Мы — урбанізаваныя,
Адной бядой і болем
Навекі не скаваныя.

Так не злучае радасць,
Як боль адзін, агульны,
Чаму?
А гэта тайна,
Яшчэ не разгаданая.

Ах, сын мой ужо вырас,
Ды збег даўно Цімоня.
І заінелі раптам
Пад стужкай валасы.

Як вір — пласцінка памяці.
Гучаць з яе прадоння
Чужыя і вясёлыя
Любімых галасы.



* * *

Я здагадалася:
сосны — зямныя антэны,
Гонкія, звонкія,
залатога свячэння нятленнага.
Што і каму
выпраменьваюць яны ў неба?
Што выгукаюць у далеч
светла і нема?

Чую: трывожна гудуць
залатыя іх целы,
Як тэлеграфныя лініі
ад тэлеграм звар'яцелых.
Вухам я прыпаду
да бясстраснасці вонкавай,—
Б'ецца ў сярэдзіне нітачка,
срэбная, звонкая.

Ці то сасна
штосьці крычыць сваім соснам.
Ці перадаць намагаецца
сваё SOS нам?..
І — не магу ўжо ніяк
ад сасны аддзяліцца,
Чыстай, янтарнай,
сцякаю па дрэве жывіцай.

След ад зарубіны чыстай слязой зацякае...
Нехта імя маё ўдалечы
выгукае...



## ГАРАДСКІ ЭСКІЗ

Легканогія кентаўры XX стагоддзя —
веласіпедысты,—
Празрыстыя прапелеры пад нагамі —
ўзнімаюць пыл залацісты.
Бязгучныя, як анёлы,
ваш рух імкліва-ўрачысты.
Падзяліў вас на Моцартаў і Сальеры
стартавы выстрал калісьці.

Раскаваныя, як вецер
над раскаванай эпохай...
Ужо раніца
набрыняла сонцам патроху.
Чаму ж там, дзе бліпчыць
над перагрэтай шашой міраж —
След абрываецца ваш?..



* * *

Кубік маёй кватэры
Вісіць у паветры.
Змяркание.
Свечка настольнае лямпы
Задзьмутая ветрам да рання.
Яшчэ не ўзышлі на небе
Зорныя светафоры.
Яшчэ не чуваць нікому,
Што зорка зорцы гаворыць.

Высокія словы адпачываюць
Ад людзей.
Ноч — пара выпадковасцей
І прыватных падзей.

...І — палымнула зарніцай,
І асвятліла
Месца ў кутку,
Дзе раней было маё піяніна,
Прададзенае ў свой час за бясцэнак.
«Домісольсі»,— адгукнуўся кот,
Што ляжаў там ля сценкі.
І асвятліла стол —
На стале толькі рыфма застыла
«Узяць — узняць»...
Зарніца яшчэ асвятліла
Выцвілы след
Ад карціны маёй на сцяне,
Усё, што ўжо даўно
Не належыць мне.

Час ачышчае нас
Ад лішніх ілюзій і рэчаў.
Стаім мы, ачышчаныя,
Перад дарогаю вечнай.

...Мераю шлях
Ад той да гэтай сцяны,
Кубік мой, раз-
гай-
да-
ны.



## ГОРАД У ГОРАДЗЕ

Цень кудлаты ад каштана
Ўпаў пад ногі нечакана.
Мне здаецца —
Ў гэтым горадзе юнацтва
Маё светлае вар'яцтва
Абзавецца.

— Дзілі-дон,— пяюць званы.
Дзесяць год пасля вайны.

На Нямізе, у завулках
Брук парэпаны, і гулкі,
І знаёмы.
Мінск гадоў пяцідзесятых,
Яшчэ часам не адцяты —
Я тут дома.

— Керагазы чынім-чынім,
Варушыцесь, гаспадыні...

Усё ускрайнае, драўлянае,
Пячное ды цаглянае —
Незваротнае.
Не лічыце за дзівацтва,
Ўсё, як памяць аб юнацтве —
Несмяротнае.



## СУЧАСНАЯ БАЛАДА

Не пяюць яшчэ твае барды,
мая эпоха...
На тых плошчах яшчэ
бязлюдна і ціха,
Там яшчэ не гараць ліхтары,
і пад вечар
Б'е прахожых па сцёгнах калючым сняжком
вецер.

Можа, дома пакуль што яны
Свае настройваюць струны,
Можа, вечныя свае,
пагубляўшы,
адшукваюць словы?
Ну, а можа, яны яшчэ толькі падручнік жыцця
гартаюць,
І яшчэ іх гітары —
ў сярэдзіне звонкай яліны?
Можа, нават
Яшчэ не ўпала семя
І не вырасла тая яліна
са стрыжнем пявучым?
І яшчэ не сустрэлі адзін аднаго
Маладыя бацькі нашых бардаў?

Але ўпарта
Зноў на плошчы
людзі чакаюць маўкліва,
Адасобленыя пакуль што.
І яшчэ — там, у доме ля плошчы,

Чалавек на высокім гарышчы
Звінчвае вінтоўку з аптычным прыцэлам.
У яго свае гульні:
Куля і цэль,
І яшчэ папраўка на вецер...



* * *

Ветэранаў абслугоўваем без чаргі...
(З аб'явы з майстэрні абутку)

Чарга — катэгорыя амаральная.
Яе трэба аб'явіць па-за законам.
(Зорый Балаян, артыкул
«Чарга», ЛГ, 27.08.86 г.)

Усіх не накорміш салдацкім пайком, бывала.
І ўсё ж у хаце чужой
міжволі рука сама даставала
Апошняе з рэчмяшка —
акраец хлеба і сала.
На лаўках дзеткі сліну каўталі,
іх многа, а сала — мала...

Салдат вяртаўся з вайны
дарогаю доўгай,
Праз голад, даўжэзныя чэргі ля магазінаў,
Праз роспач, разруху,
бездапаможнасць удоваў.
«Усё хутка зменіцца,— думаў,—
доўга так быць не павінна».

Франтавікі былыя
ў рабоце тон задавалі.
Нават у мірным жыцці
кампрамісаў не прызнавалі.
— Ну,— спекулянту казалі,— вош тылавая,
На дэфіцытах раз'еўся?
За што ваявалі?

Ні куля бандыцкая іх не брала,
ні бюракраты.
Не за сябе —
за будучыя пакаленні,
Нібы ў прарыў,
на разруху ішлі салдаты.
Загартавана ў агні
было іх сумленне.

...Час кампрамісаў шукае
ці мы іх знаходзім?
Вось ветэран ідзе ўздоўж чаргі,
ідзе пры народзе.
На́ табе яблычкаў імпартных,
без чаргі, дарагі.
Можа, тады не падумаеш ты
пра другіх з той чаргі?

Хто тую форму пашаны прыдумаць спяшаўся?
Ды, мабыць, тыя ж, хто па тылах аціраўся.
Не сахарынам яны гандлююць цяпер —
«спецзаказамі»,
Зноў дэфіцытам, чаргой
ды прыгожымі фразамі.

Быў ты, дзядзь Саша,
ротным калісь запявалам.
Стаў пры сям'і, дзядзя Саша,
штатным цяпер даставалам.
І не тады ўспамінае радня цябе,
як салюты грымяць,
А ўспамінае часцей, калі трэба нешта дастаць.
— Бацька, даюць апельсіны,
табе без чаргі можна ўзяць...
— Дзеду, аддай чаравікі ў рамонт,
табе ж не стаяць...

Просяць:
пляменніца, братава,
ўнукі і дзеці,
Просяць:
суседзі, сябры...
Ветэранава доля:
Запіс на гарнітур «Людавік» —
дзядзя Пеця...
Узяць памідораў саліць
без чаргі —
дзядзя Коля...

Гонар, слава, пашана, ды медалі —
святое.
Толькі паёк
з каўбасой дэфіцытнай пры гэтым —
не тое!
Той, хто зблытаў аднойчы
гонар
і дэфіцыты,
Ён умеў заўсёды,
ў любую часіну быць сыты.
Ён спецжыццё
сабе даўно ўжо наладзіў,
А адчуванне гонару,
калі і меў,
то страціў.

Ад сваёй шчодрасці —
і спецзаказы салдатам таксама...
А ці па іх вы хадзілі
ў пекла самае?
Ці для таго вы
Радзіму сабой закрывалі,
Каб вам за гэта пасля
каўбасой аддавалі?

Дзядзя Пеця і дзядзя Коля,
што ж то такое?
Вы ж не прывыклі дзялкам
здавацца без бою?
Ці толькі ў тым
ветэранава доля ваша,
Ты папытайся ў сябе цяпер,
дзядзя Саша...



## ЭФІР-86
## ДЛЯ МАЛАДОГА СУЧАСНІКА

Вось вы кажаце «дваццаць год застою»...»,
але ж дваццаць год — гэта ўсё, што я маю!..

З газет

Адкуль у свеце столькі ураганаў,
Лавін, стыхійных бедстваў, катастроф?
Гудзе эфір,
чужы і апантаны...
Я не гатоў да гэтакіх галгоф.

Адкуль ён, гэты свет,
і дзе раней быў?
Няўтульна стала жыць на скразняках.
Ў дзяцінстве так было:
аднойчы неба
Абрынулася на мяне.
Быў толькі страх.

Так апаліла сонца,
асляпіла,
Да апраметнай цемрадзі без дна!
Ды свечачка душы маёй адна
Тады сусвет апуджаны цяпліла.

Урач пасля сказаў, што так бывае.
Што гэта пройдзе.
Проста я расту.
І час расціў мяне прачула-дбайна,
Як строгі, пільна-ўважлівы пастух.

Я вырас,
як атожылак бульбяны...
Адкуль у свеце столькі ураганаў?..



## ФАЛЬКЛОР XX СТАГОДДЗЯ

Аб'ект у выглядзе лебедзя трапіў
у зону дзеяння ЗВЧ-радара [1]...

З запісу лейтэнанта Карнеева
падчас яго дзяжурства

Ты мой агеньчык-праменьчык,
Воблачны след у сінечы,
Перайка беласнежнае,
Свеце мой безмяцежны!
Там, дзе з табой я лятаў —
След твой пад сонцам растаў...
З невычэрпным жалем,
З невыказным болем
Клікаў лебедзь над лугам,
Клікаў лебедзь над полем.
Сэрца бяды не прымае.
Усё, што на свеце я маю —
Гэта твой голас адзіны,
Тон ты мой лебядзіны,
Родны, пяшчотны крык,
Што ў неагляднасці знік.
Лебедзь лябёдку шукаў.
Голас яго аціхаў.
Засціў яму ўвесь свет
Тонкі яе сілуэт.

---

[1] ЗВЧ-радар — звышвысокай частаты, на станцыі назірання супрацьракетнай абароны. Удар імпульсу токаў ЗВЧ — эфект «скараваркі».

«Знаеш, мама, тут такая спёка,
што навар'яцелі нават птушкі.
Учора іду з дзяжурства,
на мяне, як каршун, наляцеў лебедзь
і проста ў вочы дзюбаю...
Я адмахнуўся, збіў яго прыкладам. Ды вось
забіў. Шкада, я ж не хацеў...»

*З ліста*
*лейтэнанта Карнеева*
*дадому*



* * *

Per aspera ad...[1] — «на кругі свая»?
А дзе тыя кругі
І дзе тыя другі,
Што ад бяды вызвалялі папругі?
Даўно прад вачыма ўжо не стаяць.

А іншымі словамі «стань сабою»?
Я спрабаваў,
Ды біты бываў,
І кожны год мяне кальцаваў,
Як час пазначае дрэва любое.

Так кольцы гадоў вакол нас і ўюцца.
Шчыльна і прагна,
нібы павой,
І тлумачэнню
не паддаюцца,
І не пагаджаюцца між сабой:

Год пакорлівы,
год разгайданы,
Год ціхманы,
год апантаны.
Дзе спасаваў ты,
дзе ўстаяў,—
Усё увабрала доля твая.

---

[1] Per aspera ad astra *(лац.)* — праз церні да...

Цяпер, спадзяешся,
і astra заззяюць?
Ды толькі церні вось не пускаюць...
Ты не касіў іх,
ты не рубіў,
Ніводнае зоркі не запаліў.



* * *

Ці то ўголас, ці то ўпотай
Пракляну я адзіноту
Згарача.
Ды кляновая далонька
З невыказнаю пяшчотай
Дакранецца да пляча...



## ЗМЕСТ

**Філімонава Л.**

Ф 53 Імправізацыя: Вершы, паэма.— Мн.: Маст. літ., 1988.— 93 с.

ISBN5-340-00068-0

Паэзія Любові Філімонавай — паэзія інтымнага настрою, лірычных перажыванняў і элегічнага роздуму пра чалавека, прыроду, грамадства і іх узаемазалежнасць.

Ф $\frac{4702120200-008}{М 302(03)-88}$ 68—88 **ББК 84 Бел 7**

Литературно-художественное
издание

ФИЛИМОНОВА
ЛЮБОВЬ АЛЕКСАНДРОВНА

**Импровизация**

Стихи. Поэма

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке



Літаратурна-мастацкае
выданне

ФІЛІМОНАВА
ЛЮБОЎ АЛЯКСАНДРАЎНА

**Імправізацыя**

Вершы. Паэма

Рэдактар *В. С. Сёмуха*
Мастак *Г. Г. Малышаў*
Мастацкі рэдактар *А. М. Малышава*
Тэхнічны рэдактар *А. Б. Барадзіна*
Карэктар *І. М. Паланейчык*

ІБ № 2437

Здадзена ў набор 25.06.87. Падп. да друку 06.11.87. АТ 07725. Фармат 70×90 1/32. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 3,51. Ум. фарб.-адб. 4,90. Ул.-выд. арк. 2,93. Тыраж 3000 экз. Зак. 540. Цана 35 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.